# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

№ 52 (931) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 30 СНЕЖНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


* * *

І зноў зіма пад ногі ўпала,
Бы пер'е белага крыла,
Адны сляды пазамятала,
Другіх адбіткі зберагла.
Нібыта ў пошуках удачы,
Завея ў срэбраным вянку
На белагрывай тройцы скача
Да бальшака па цаліку.
І зноў шкрабе і днём, і ноччу
У дзверы. Шыецца пад плот,
Як той чужы, бяздомны кот.
Ад белі снегу слепнуць вочы...

**Іван Мядзведзеў**

# 1974

Перад намі год 1974. Які ён будзе? Што прынясе? Краіне і нам асабіста?

Наступіць далейшае паляпшэнне ўмоваў жыцця. Прадбачваецца, што грашовыя даходы насельніцтва перавысяць на 69 мільярдаў злотых прадпасылкі 5-гадовага плана.

Будзе гэта год высокай прадукцыйнай дынамікі. У 1974 годзе ўзровень нацыянальнага даходу перакрые прадбачваемую мяжу 1975 года. І то значна. Павінны мы аднак помніць, што на ўзрост нацыянальнага даходу складаецца не толькі дынаміка матэрыяльнай прадукцыі, але таксама абніжэнне коштаў вытворчасці.

На І краёвай канферэнцыі ПАРП Эдвард Герэк гаварыў: „Калі б мы лепш гаспадарылі людзьмі, часам і матэрыяламі, несумненна вынікі нашай працы былі б большыя ад дагэтуляшніх".

Гэтая крытычная ацэнка дыктуе іншы погляд на 1974 год. Трэба абяспечыць перавагу інтэнсіўным і якасным фактарам гаспадарчага ўзросту. Справа ў тым, каб наша краіна развівалася і далей у такім хуткім тэмпе, але каб грамадскія кошты гэтага развіцця былі ніжэйшыя. Справа ў тым, каб лепшай была эфектыўнасць гаспадарання.

Лепшая эфектыўнасць — гэта рацыянальнае выкарыстанне творчых сіл, гэта рацыянальнае выкарыстанне сыравіны і матэрыялаў, гэта лепшае гаспадаранне існуючай маёмасцю, маёмасцю, якая ў выніку высокіх тэмпаў інвеставання, хутка павялічваецца.

1974 год будзе годам інвестыцыйнага жніва (інвестыцыйныя выдаткі надыходзячага года павінны скласці 416 мільярдаў злотых, на 46 мільярдаў больш, чым у гэтым годзе). Вялікія намаганні, зробленыя ў 1972—73 гадах, можна будзе ўжо дыскантаваць — пры дзвюх умовах: тэрміновага аддавання інвестыцый у карыстанне і спраўнага пускання ў ход вытворчых сіл.

І, бадай, год 1974 можна б таксама назваць годам вялікага запатрабавання на ўсялякага роду новаўвядзенні, ініцыятывы, самадзейнасць і смелыя думкі.

Дык, дарагія чытачы, з Новым годам! За вышэйшую якасць нашай працы!

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"





**Фота Я. Цялушэцкага**

# АПІСАННЕ ВЁСКІ РЫБАЛЫ

Паводле апошняга сельскагаспадарчага перапісу (чэрвень, 1973 г.) у Рыбалах пражывала 186 гаспадароў. Жылых дамоў у гэтай вёсцы крыху больш. Яны раскінуліся паабапал шашы, утвараючы вельмі доўгую вуліцу, па якой амаль безупынку імчацца аўтамашыны і трактары.

І я сам сотні раз праязджаў ужо праз Рыбалы. Што ж можна ўбачыць з вокан аўтамабіля? Што на даўнейшым месцы стаіць старэнькая царква, што сярод даўнейшых, пераважна даваенных дамоў усё часцей паяўляюцца сучасныя мурованкі, што заблудаўскі ГС у верасні гэтага года пачаў пабудову гандлёвага павільёна, бо ў старым магазінчыку зрабілася ўжо цесна.

Што, аднак, бурліць глыбей, пад паверхняй гэтых вонкавых уражанняў?

Мікалай Лукашук, які салтысуе ў Рыбалах ад 1964 года, пасяліўся крыху з боку ад галоўнай вуліцы. На яго драўлянай, тыповай для гэтых ваколіц, хаце бачу аж тры металічныя таблічкі. На адной напісана, што ён **солтыс**, на другой — **перадавік** аховы сельскагаспадарчых культур, на трэцяй — **грамадскі апякун.** Ці крыху не замнога на аднаго чалавека?

— Бачыце, — кажа дзядзька Лукашук, якому пайшоў ужо 53 год, — людзі давяраюць, дык не магу адказвацца, неяк спраўляюся. Дачка мне шмат у чым дапамагае. Тая таблічка пра грамадскага апекуна адносіцца да яе.

Солтысава дачка, Ніна, была ў Рыбалах сакратаром прэзідыума ГРН. Пасля ліквідацыі Рыбалаўскай грамады працуе ў гмінным праўленні ў Заблудаве. Жыве аднак пры бацьках і далей цікавіцца лёсам людзей, патрабуючых дапамогі.

У солтыса ёсць яшчэ сын, ён у міліцыі.

— Дома, на гаспадарцы, — кажа солтысава жонка, — асталіся мы адны, старыя.

Пасля я даведаўся, што восенню 1971 года рыбалаўскія сяляне нарэшце перайшлі гаспадарыць на „калёніі", што закончылася бегатня па цераспалосіцы.

— Даўней, — інфармуе солтыс, — кожны гаспадар у Рыбалах трымаў не больш 1—2 кароў. Цяпер амаль у кожнага ў тры разы больш. Я сам трымаю 5 кароў і здаў у гэтым годзе восем паршукоў.

Гляджу ў статыстыку. Зямельных угоддзяў у Рыбалах амаль 1000 га. кароў — 360, свіней — 600. Значыць, статыстычныя паказчыкі зусім не рэкордныя, шмат ніжэйшыя ад сярэдніх ваяводскіх. Значыць, можна яшчэ лепш.

Што сапраўды можна, даказваюць у практычным дзеянні такія гаспадары, як солтыс Лукашук, як Аляксандр Мароз, Ян Дымітрук, Васіль Супрунюк, Мікалай Міхальчук і яшчэ адзін Мікалай Лукашук, якому па бацьку — Мікалаевіч. У іх у хлявах цяпер па 4—5 кароў і свіней поўная чарада. Затым многія рыбалаўскія гаспадары шукаюць падмацавання для сваёй эканомікі ў вырошчванні трускалак, агуркоў і памідораў. Гэта ўжо мода апошніх гадоў.

— Што тут гаварыць аб паказчыках, — кажа солтыс, — калі ў нас у час камасацыі давялося ліквідаваць аж 82 гаспадаркі, якія ўжо зусім заняпалі. Іх зямлю дзяржава перадала ПГР-у „Ігнаткі", які абсталяваў у Рыбалах свой філіял. Аднак цяпер яшчэ знайшлося б нейкіх 100 га пазней ужо пакінутай зямлі, якую зноў трэба было б перадаць ПГР-у, бо няма каму яе апрацоўваць.

Не парадаваў мяне солтыс. Думаю: які ж выхад? Нельга ж, ды зусім немагчыма і непатрэбна, спыніць адыход з вёскі вытворчай сілы. Праз Рыбалы імчацца аўтамабілі, клічуць у дарогу: у Беласток, у Бельск, куды хочаш, каб толькі меў карысную прафесію!

Дык можа інтэнсіфікаваць механізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці? Тады варта зайсці ў бюро рыбалаўскага сельскагаспадарчага гуртка. Тут знаёмлюся з гуртkоўскім рахункаводам Лёнем Федаруком. Рыбалаўская грамадская механізацыя — гэта 6 машынна-трактарных камплектаў. Значыць, на адзін трактар прыпадае больш 300 га зямельных угоддзяў. Гэта далёка, вельмі далёка да агульнадзяржаўнага ўзроўню. На дадатак аказваецца, што ў

Працяг на стар. 4

# БГКТ ХРОНІКА

■ На справаздачна-выбарным сходзе гуртка БГКТ у Барысаўцы (Гайнаўскі павет) члены БГКТ прынялі план працы далейшай дзейнасці гуртка, выбралі новае праўленне на чале з Янам Яканюком, утварылі тэатральны калектыў і эстрадную харавую групу.

■ У Камені на Гайнаўшчыне праўленне гуртка БГКТ узначаліла Крыстына Хадак. Удзельнікі справаздачна-выбарнага сходу таксама пастанавілі арганізаваць тэатральны калектыў і падрыхтаваць п'есу на беларускай мове.

■ 10 і 11 снежня наш паэт Алесь Барскі меў аўтарскія сустрэчы ў наступных школах: у Масеве, Скупаве, Навасадах, Альхоўцы і ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. Усюды яго сардэчна прымалі, усюды захапляліся яго дэкламатарскімі здольнасцямі. Прысутнічаў на сустрэчы старшыня гайнаўскага праўлення аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк, які ў сваіх выступленнях падкрэсліваў неабходнасць шанаваць сваю родную мову і вывучаць яе.

■ 15 снежня адбылося пасяджэнне прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку супольна з радай клуба. Былі абмеркаваны наступныя справы: 1) удзел аддзела ў конкурсах БГКТ — песенным і тэатральным, 2) падрыхтоўка да традыцыйнай карнавальнай вечарыны 13 студзеня, 3) арганізаванне 20 студзеня ёлкі для дзяцей, якіх бацькі з'яўляюцца членамі БГКТ, 4) арганізацыйныя справы аддзела. У пасяджэнні прыняў удзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.

■ 15 снежня ў доме культуры „Ляснік" у Гайнаўцы адбылася папулярна-навуковая сесія, прысвечаная 50 гадавіне КПЗБ. Арганізатарам яе быў мясцовы беларускі ліцэй. З дакладамі на тэму „Арганізацыйная структура КПЗБ" і „Палітычная дзейнасць КПЗБ" выступілі члены БГКТ, вучні старэйшых класаў беларускага ліцэя Зінаіда Лукша і Галена Мікалаюк. Пасля сесіі быў паказаны савецкі фільм (арганізатары пазычылі яго ў ГП БГКТ) „Чырвонае лісце". Гэтай сесіі будзе прысвечана асобная публікацыя ў „Ніве".

■ Справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Новым Беразове (Гайнаўскі павет) падсумаваў дагэтуляшнюю дзейнасць, прыняў новы план працы і выбраў новае праўленне. Старшынёй выбрана Галена Мароз. (мх)

# ТРЫБУНА чытачоў

## Слова да нашых карэспандэнтаў

**Многа, многа шчасця і поспехаў Вам, прыяцелі, у Новым годзе! І яшчэ прыгаршчы асабістых пажаданняў; вострага пяра, незмаўкаючага голасу, адвагі і цярплівасці ў збіранні матэрыялаў і пісанні іх для „Нівы“.**

**Будзьце летапісцамі нашых дзён!**

**Стварайце жывую, цікавую хроніку „Нівы“.**

**Рэдакцыя**

## Было пракляццем а стала багаццем

У вёсках, як Кнышэвічы, Слоя, Гаркавічы і іншыя, на палях было вялікае мноства камення. Як жа часта наракалі на яго людзі, бо з-за гэтага камення, аручы, ламалі лемяшы ў плугах, ламалі стальвагі і ворчыкі ды рвалі пастронкі. А калі людзі хадзілі па полі і аралі басанож у санацыйнай Польшчы, то і ногі, і пальцы калечылі на каменні. З-за камення гэтага людзі сварыліся і біліся, бо адзін другому, бывала, накідае камення ў яго разору або на загон.

А каменне — добры і каштоўны дарожны матэрыял. І прыйшла пара на гэты матэрыял. У 1968 годзе Раён эксплуатацыі публічных дарог у Саколцы залажыў сваю базу пераапрацоўкі камення на шабар і жвір. Зрабіў каменедрабілку. Сталі масава купляць каменне. Плацяць высокія цэны за кубаметр. Пачалі сяляне вазіць каменне вазамі, трактарамі і хто як мог. Назвозілі дзесяткі тысяч кубаметраў. Пачалі будаваць дарогі: як шаша Крынкі—Супрасль, пашыраць шашу Беласток — Кузніца і будаваць іншыя дарогі ў Беластоцкім ваяводстве, а таксама падсыпаць чыгункі.

Спраўнейшай эксплуатацыі камення спрыяла яшчэ камасацыя зямлі ў гміне Шудзялава. Кожны гаспадар хоча сабраць са сваёй калёніі каменне ды пры гэтым і зарабіць некалькі тысяч злотых. За кубаметр камення плацяць па 140 зл. Дык у нас цяпер, калі хто ўбачыць на сваім полі камень нават з арэх, дык бярэ ў кошык, як грыб. Адзін камень велічынёй з кулак каштуе залатоўку.

Ёсць у Слоі гаспадары, якія за каменне зарабілі ўжо па 50—60 тыс. зл., а хто больш падвязе камення за квартал, той атрымлівае прэмію. А ў вёсцы Слоя Якімец Іван і Суравец Васіль дык нават не палічаць, колькі грошай зарабілі на каменні.

Нарадзілася нават такая сакольская пагаворка: „Толькі для леня не цэннае каменне, бо за каменне — грошай жменя“.

**А. С.**

## Сельгасгурток у Спічках

Ужо даўно існуе ў Спічках сельскагаспадарчы гурток. Што з таго, што ён існаваў, калі Спічкі не мелі машын для сельскагаспадарчых работ? Жыхары нашай вёскі вельмі стараліся, каб гурток атрымаў машыны. Дачакаліся гэтага ў 1973 годзе. Вясной гэтага года сельскагаспадарчы гурток у Спічках атрымаў тры трактары, плугі і іншыя машыны, патрэбныя да апрацоўкі зямлі.

Уцешыліся жыхары нашай вёскі. Калі растаў снег, прасохла зямля і з выраю прыляцелі жаваранкі, трактарысты прыступілі да веснавых работ. Яны аралі зямлю, а калі на палях пазелянела, трактарысты апырсквалі зелле, якое паявілася ў ярыне. Перад самым жнівом спічкоўскі сельгасгурток атрымаў снапавязалкі, а калі збожжа даспела, трактарысты ўзяліся за працу. Яны ў першую чаргу жалі збожжа тым, у каго не хапала рук да працы, у другую — іншым сялянам. За лета спічкоўскія трактарысты вельмі дапамаглі жыхарам нашай вёскі ў такой працы. За гэта належыцца ім вялікая падзяка. Трактарысты са спічкоўскага сельгасгуртка вазілі таксама пясок на дарогі ў суседнія вёскі.

Працай сельскагаспадарчага гуртка ў Спічках кіруе старшыня Ян Бабулевіч, а трактарыстамі з'яўляюцца Рыгор Гапуновіч, Рыгор Себясевіч і Мікалай Анапюк.

**Васіль Асеннік**
Спічкі
(вуч Бельскага беларускага ліцэя)

**Чытайце і распаўсюджвайце „Ніву“!**

## „МЯДЗВЕДЗЬ“

У мінулым годзе сяляне вёскі Дубічы Царкоўныя выканалі карысную працу ва ўрочышчы „Мядзведзь“. Выкарчавалі тут зараснікі, кусты, якія раслі спрадвеку. Абшар не малы — каля 15 га. Карысць падвойная: дровы і сена (выкарчаваную зямлю мелі засеяць травой і падзяліць паміж сабою, як гэта зрабілі ва ўрочышчы „Жалубок“).

Аднак на выкарчаванні праца затрымалася. І ніхто нічога больш не рабіў. Месца зноў парасло маладняком. Цяпер, каб пачаць апрацоўваць урочышча „Мядзведзь“, зноў трэба яго чысціць. Сяляне чамусьці рукі апусцілі. Чаму?

Мо таму (так гавораць), што ў адным месцы гэтага ўрочышча мясцовыя ўлады не дазволілі сялянам выкарчаваць некалькі гектараў. Сказалі, што гэта ўласнасць не сялян, а ПФЗ (дзяржаўнага фонду зямлі) і гаспадаром гэтага кавалка з'яўляецца мясцовы сельгасгурток. (Ён у апошні час заваяваў сабе дрэнную славу). Сяляне кажуць, што гэта іх уласнасць. І так цягнецца. А гэты невялікі кавалак урочышча і па сённяшні дзень не выкарчаваны. Але хто тут разбярэцца, як яно ёсць, і да каго належыць урочышча „Мядзведзь?“

**П. Дубовіч**

## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

З Аняй хадзіў я амаль год. Яна мне вельмі спадабалася, і мы пакахалі адно аднаго. Было нам разам вельмі добра. Але прыйшоў час расстання. Мяне паклікалі ў войска. Цяжка было нам развітвацца. Аня, мая дзяўчына, плакала, калі сядаў я ў цягнік. Прасіла, каб пісаў пісьмы, абяцала чакаць. Першы ліст выслаў я адразу, калі толькі прыехаў на месца. Неўзабаве атрымаў адказ. Пісаў я часта і з нецярплівасцю чакаў вестак ад Ані. Але потым усё заціхла. Не ведаў, што здарылася, чаму яна не адпісвае на мае лісты. Выясніў мне ўсё мой сябар у пісьме да мяне. Аказалася, што Аня выйшла замуж. Выйшла за старэйшага хлопца з суседняй вёскі. Думаў, не пераЖыву гэтай крыўды, якой ніколі не спадзяваўся. Дапамаглі мне мае сябры-салдаты. Пацяшалі, разважалі, як маглі. Мінула ад гэтага часу ўжо дзесяць месяцаў, а я Аню забыць не магу. Я яе далей кахаю. Мяне ўжо сябар пазнаёміў з дзяўчынай, думаў, можа, пакахаю другую і гэта паможа забыць маё гора. Я сустракаюся з ёю, але ўсё ж гэта не Аня. І вось нядаўна, зусім нечакана атрымаў ліст ад Ані. Яна піша, што расчаравалася ў замужжы, не падабаецца ёй гэты намнога старэйшы хлопец, за якога нагаварылі яе выйсці бацькі. Бацькам спадабалася, што ён багаты ды адзін. Не магла далей так цярпець і падала на развод. Скардзіцца на свой лёс і шкадуе свайго ўчынку. Піша, што кахае мяне і хацела б, каб вярнулася ўсё мінулае, што каб я толькі ёй прабачыў, яна выйшла б за мяне. Я вясною вяртаюся дамоў. Аня ўжо будзе вольная. Але ж я хаджу цяпер з другой дзяўчынай. Яна мне ўжо і спадабалася, але калі адазвалася Аня, мяне цяпер да яе зусім не цягне. І не ведаю, што рабіць. Ці вярнуцца да Ані, ці жаніцца з другой дзяўчынай?

**Віктар з горада В.**

Віктар! Спачуваю табе! Твая каханая дзяўчына пакрыўдзіла цябе. Але не толькі цябе. Сябе яна пакрыўдзіла яшчэ больш. Вялікая адлегласць паміж вамі ды намова бацькоў давяла да таго. Аня апамяталася, просіць прабачэння, але ці прабачыш ты ёй — гэта ўжо твая справа. Шчырае, сапраўднае каханне мае на гэта вялікі ўплыў. Што датычыць другой дзяўчыны, дык ты яе не кахаеш, а таму аб жаніцьбе з ёй не можа быць мовы. Сам ты пераканаўся, што пераліць пачуцці з аднае дзяўчыны на другую немагчыма. Бо не чалавек пачуццямі кіруе, а пачуцці чалавекам.

**Сэрцайка**

## Ну і палепшала

Пры блоках жалезнадарожнікаў у Гайнаўцы пабудавалі прадуктовы магазін. Усе ўзрадаваліся, што не трэба будзе хадзіць у цэнтр горада за прадуктамі. Але выйшла ўсё інакш. Магазін пастаянна запоўнен півам і півошамі, з-за якіх не дачакаешся, каб купіць кілаграм мукі ці цукру. Мала таго, аматары піва, напіўшыся, выходзяць і аж брыдка казаць, што робяць: падліваюць заднія сцены магазіна і блокаў. Не ведаю, ці трэба, каб у гэтым магазіне было піва. Бо цяпер гэты магазін не адрозніваецца ад „слаўнага“ бару „Экспрэс“. Ці ўсяго гэтага не бачаць гаспадары Гайнаўкі? (км)

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

## Ці Дзярнякова хоча жыць культурна?

**АДКАЗВАЕ:**
**URZĄD GMINY W GRÓDKU POW. BIAŁOSTOCKI.**

W odpowiedzi na notatkę pt. „Dzierniakowo chce żyć kulturalniej”, zamieszczoną w nr. „Niwa” 42 (921) z dnia 21.X.1973 r. Urząd Gminy w Gródku wyjaśnia, że w notatce zawarte są pewne nieścisłości dotyczące m. in. sprzedaży trzody chlewnej i bydła przez sołtysa. Ponadto było nadmienione, jakoby naczelnik gminy obiecał dostarczyć drzewka do obsadzenia szkoły. Stwierdza się, że obietnicy takowej nie było i nikt nie zwracał się z prośbą o drzewka.

Nadmieniam, że w okresie wiosny mieliśmy do rozprowadzenia i zasadzenia około 3.000 szt. drzewek i był poważny kłopot z ich rozprowadzeniem. Zgłoszona propozycja ze strony młodzieży z Dzierniakowa, dotycząca dostarczenia drzewek byłaby przychylnie przyjęta i załatwiona z naszej strony. Drzewka rozwożone były w promieniu 20 km do szkół i wsi i tylko dzięki postawie młodzieży szkolnej uniknęliśmy strat i rozprowadziliśmy cały zapas tych drzewek.

W miesiącu październiku br. otrzymaliśmy następne 2.500 szt. drzewek i z tego 100 szt. zostało dowiezionych do wsi Dzierniakowo, które przyjął pod wielkim przymusem sołtys (pracownicy zrzucili na podwórku), a które do chwili obecnej nie wszystkie zostały wysadzone.

W sprawie podziału wspólnoty wiejskiej, to inicjatywa winna wyjść od strony samych jej użytkowników i ich zgody. Każdy z rolników posiada swój udział we wspólnocie i w tym wypadku nie można jej podzielić z urzędu, chyba, że powstałyby zadłużenia z tego tytułu i zostałaby wówczas przyjęta na PFZ, jak miało to miejsce we wsi Mieleszki, gdzie rozdzielono 65 ha wspólnoty po uprzednim przejęciu jej na PFZ.

Sprawa znalezienia opiekuna i zagospodarowania budynku poszkolnego stawiana była na zebraniu wiejskim w m-cu czerwcu br., gdzie obecna była młodzież i starsi mieszkańcy wsi. Powiedziane im było, aby mieszkańcy wsi, szczególnie POP, ZSMW lub OSP doszły do porozumienia i ustaliły, która z tych organizacji przejmie opiekę nad budynkiem. Jak dotychczas żadnego wniosku z ich strony nie podjęto. Poza tym doszły słuchy, że społeczeństwo wsi Dzierniakowo chciałoby mieć placówkę handlową w postaci PSP lub Klubu Rolnika. W związku z tym w m-cu październiku br. jako przedstawiciel GK FJN był skierowany na zebranie konsultacyjne w tej wsi V-ce Prezes d/s Zaopatrzenia miejscowego GS ob. Naliwajko Jerzy, który nadesłał do tutejszego urzędu notatkę, o treści jak w załączeniu.

Jednak pomimo załączonego wyjaśnienia, tutejszy Urząd Gminy będzie czynić starania w kierunku pozytywnego załatwienia problemów nurtujących wieś Dzierniakowo pod warunkiem pełnego zrozumienia, poparcia i inicjatywy samych mieszkańców, a szczególnie młodzieży.

Zdajemy sobe sprawę, że nasz teren jest bardzo mocno zaniedbany i trzeba będzie wiele środków i pracy, aby sytuację takową polepszyć.

Pragnę na zakończenie poinformować, że pomimo podjętego przez mieszkańców wsi na zebraniu w m-cu czerwcu br. zobowiązania, **dotyczącego naprawy drogi** w ramach czynu społecznego, żaden z rolników, ani też nikt z młodzieży nie zgłosili się do wspomnianego czynu. W III dekadzie czynów społecznych w br. tj. w m-cu czerwcu na terenie gminy pracowało setki rolników z poszczególnych wsi.

**Naczelnik gminy w Gródku**
**Eugeniusz Matejczuk**

**NOTATKA Z ZEBRANIA KONSULTACYJNEGO WE WSI DZIERNIAKOWO**

Urząd Gminy w Gródku

Niniejszym powiadamiam, że podczas zebrania przedwyborczego z mieszkańcami wsi Dzierniakowo w miesiącu październiku br., które prowadziłem z ramienia Gminnego Komitetu FJN z dyskusji wywnioskowałem, że zorganizowanie Klubu Rolnika w tej miejscowości jest niecelowe i nie może być uzasadnione. We wsi nie ma młodych rolników, gospodarujących samodzielnie i w ogóle młodzieży jest niewiele. Położenie wsi o 4 km od GOK, brak perspektyw rozwoju jak i minimalna szansa zaangażowania odpowiedniej osoby na gospodarza Klubu, przemawia na niekorzyść koncepcji organizowania Klubu Rolnika. Powyższe nie wyklucza potrzeby zabezpieczenia bydunku szkolnego przed niszczeniem.

**V-ce Prezes d/s Zaopatrzenia**
**(J. Naliwajko)**

## Наша пошта

**Бутэль Піва.** „Фальклор спічкаўскіх п'яніц“ неўзабаве надрукуем.

**„Валошка“.** Вы дарма прычапіліся да загалоўка „Не агнём пажар страшны“. Думка Ларсавага фельетона — усю маёмасць трэба абавязкова страхаваць — вельмі актуальная для сялян і выясняць гэта — карысная справа. А вось высмейваць рэлігійныя пачуцці людзей, як вы робіце ў сваім апавяданні, — гэтага мы не адабраем. І наогул тэматыка вашага апавядання архаічная, а мы ахвотна друкуем ўсё пра новае жыццё.

**Анна Дэнісюк,** Плёскі. Апавяданне „Ірынка“ надрукуем.

**Мікалай Базылюк.** Атрымалі вашы вершы. Адзін з іх — „Над морам“ — прыйшоў да нас раней. І мы яго ўжо запланавалі да друку. Надрукуем і другі, толькі трэба пачакаць. Добра было б, каб вы напісалі нам шырэй аб сваім і сваіх сяброў-рыбакоў жыцці.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Na rabunek” (radz.), 1—2. „Walter broni Sarajewa” (jugosł.), 3—4. „Simon Boliwer” (franc.), 5—6.

**Чаромуха**
„Przemiana” (franc.), 1—2. „Na krawędzi” (polski), 5—6.

**Кляшчэлі**
„Jeśli dziś wtorek to jesteśmy w Belgii” (angl.), 1—2. „Ucieczka w kajdanach” (USA). 3—4. „Opętanie” (polski), 5—6.

**Нараўка**
„Tydzień szaleńców” (rumuński), „Dziewczyna na miotle” (rumuński), 2—6.

**Нарва**
„Anatomia miłości” (polski). „Księżniczka Czardasza” (węgierski), 2—6.

**Чыжы**
„Ponieważ się kochają” (rumuński), „Walter broni Sarajewa” (jugosł.), 2—6.

**Дубічы Царкоўныя**
„Niech bestia zdycha” (franc.), „Jezioro osobliwości” (polski), 2—6.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Najlepsze lata z życia mężczyzny” (węgierski), „Gdzie jest generał” (polski), 2—6.

**Райск**
„Zabijcie czarną owcę” (polski). „Naszyjnik dla mojej ukochanej” (radz.), 2—6.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Poszukiwana-poszukiwany” (polski), 5—6.

**Міхалова**
„Poszukiwanie” (hiszpański), 1—2. „Powrót z frontu” (radz.), 3—4. „12 krzeseł” (radz.), 5—6.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Hubal” (polski), „Lew pręży się do skoku” (węgierski) 2—6.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Wkrótce nadejdzie wiosna” (radz.), 1—2. „Homolkowie na urlopie” (czeski), 3—4. „Krwawa bajka” (jugosł), 5—6.

**Мілейчыцы**
„Niewolnicy” (USA), 1—2. „Cudowny kożuszek” (węgierski). 3—4. „Ded Kelly” (angl.), 5—6.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa”, Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł. kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch” w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7.669 K-3

